


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№ 13 (292) ВЕРАСЕНЬ 2020 ГОДА


**БЕЛАРУСКІ АФАРЫЗМ**

*Вялікая гэта справа – чалавечая адкрытасць, праўдзівая споведзь без грама разліку, жадання падаць сябе лепшым, чым ёсць на самай справе.*

*Васіль Быкаў*

ПАЛІТЫЧНЫ ПЕРАСЛЕД

# АКТЫВІСТ З ГАРАДКА ПАСЛЯ ТРОХ СУТАК АРЫШТА ТРАПІЎ У РЭАНІМАЦЫЮ

**14 жніўня ў 16.00 у Гарадку затрымалі Леаніда Гаравога, краязнаўца, грамадскага актывіста, сябра ЦРК БСДП (Грамада) за аб'яву пра правядзенне несанкцыянаванага пікету. Пасля трох сутак арышту ў Гарадоцкім РАУС адбыўся судовы працэс. Неўзабаве пасля гэтага актывіст быў шпіталізаваны з гіпаглікеміей, у яго здарыўся інсульт.**



У сацыяльных сетках Леанід Гаравы заклікаў гараджан прыйсці 14 жніўня на экалагічную ініцыятыву і пакарміць птушак. Ён паабяцаў яшчэ адказаць на пытанні, якія хвалююць людзей у цяперашняй сітуацыі. Міліцыя затрымала Гаравога за дзве гадзіны да пачатку ініцыятывы.

Па словах жонкі Таццяны, пікетавання ён не арганізоўваў, гэта была экалагічная ініцыятыва. Людзей запрасілі прыйсці пакарміць птушак. Толькі вось актывіста затрымалі і ўтрымлівалі трое сутак у будынку міліцыі ў Гарадку, піша ***vitebskspring.org.***

Па словах жонкі Гаравога, яго ў пастарунку не кармілі 22 гадзіны, а ў суботу ўвечары ў яго падняўся ўзровень цукру ў крыві і падскочыў артэрыяльны ціск — міліцыі прыйшлося выклікаць хуткую дапамогу. Пра здароўе мужа Таццяне ніхто не сказаў, як і пра тое што яшчэ чатыры разы выклікалі хуткую дапамогу, каб разбірацца з ціскам.

Суд адбыўся ў панядзелак у аддзяленні міліцыі. Таццяна Гаравая спрабавала высветліць, дзе адбудзецца суд яшчэ раніцай, але нічога дакладнага ў судзе не даведалася. Суд прысудзіў Леаніда Гаравога да трох сутак, якія ён ужо адсядзеў.

*«Лёня вельмі знерваваўся, што яго не апраўдалі. Мы выйшлі з ім на ганак, і яму зноў стала дрэнна. Выклікалі хуткую. Яго даставілі ў рэанімацыю з гіпаглікеміей, ціск ўпалў да 85/50. Дай бог, усё пройдзе, бо інсульт здарыўся ўжо ў лякарні. Самаадчуванне стабілізавалася»,* — распавяла Таццяна Гаравая.

*P.S. Зараз рэдактар нашага сайта Леанід Гаравы знаходзіцца на бальнічным дома.*

**Л.Антонаў**

**ЗНАЧНА БОЛЬШ НАВІНАЎ ПРА ГАРАДОК НА HARADOK.INFO**

НАША ЖЫЦЦЁ

# ТВАР ВЁСКІ — ДОБРЫЯ ЛЮДЗІ!

**Ужо стала традыцыяй у канцы лета ўшаноўваць гаспадароў лепшых домаўладанняў вёскі Пруднікі Вайханскага сельсавета, якія крэатыўна падыходзяць да іх упрыгожвання. У гэты раз на вуліцы Бароўскай дожджык не перашкодзіў правядзенню святочнай праграмы і танцам.**

У пачатку мерапрыемства старшыня Вайханскага сельсавета Л. Грузневіч звярнулася да аднавяскоўцаў:

— Прыемна бачыць усіх вас, працавітых і адкрытых людзей, якія пражылі шмат гадоў на сваёй малой радзіме. Мы сардэчна дзякуем тым, хто даглядае за сваім домам і тэрыторыяй каля яго, падтрымлівае любімую вёску, захоўваючы чысціню і парадак. Беражыце адзін аднаго, хай свет і каханне заўсёды жыве ў кожным доме вёскі Пруднікі, Гарадокшчыны і ўсёй краіны.

Запрошаным госцем на свяце быў Дзмітрый Сямёнаў, першы намеснік начальніка РАНС. Напярэдадні акцыі «Адзіны дзень бяспекі» ён правёў гутарку па актуальных пытаннях — выкарыстанні электратэхнікі ў побыце і правільная эксплуатацыя пячнога абсталявання. Паводле яго слоў, неабачлівасць і непамятлівасць пажылых людзей часта з'яўляюцца прычынай пажараў, на якіх нярэдка гінуць людзі. На жаль, у статыстыцы МНС штогод ёсць месца і для колькасці загінулых людзей. Дзмітрый Мікалаевіч раздаў вяскоўцам інфармацыйныя ўлёткі і адказаў на ўзніклыя пытанні.

Калектыў Бычыхінскага СДК, народны фальклорны калектыў «Гаспадыня» падарыў гледачам музычныя віншаванні. Людміла Барсукова выканала жартоўныя прыпеўкі і «сарвала» гучныя апладысменты.

Вядучая свята, Любоў Каржова, распавяла пра самую малодшую жыхарку Пруднікаў — падгадаваную Мілану Ананьеву і самую старэйшую — Ірму Іванаўну Грыгор'еву, якой ужо больш за 90 гадоў. Далей Любоў Аляксандраўна разам з Ліліяй Грузневіч павіншавалі і ўручалі духмяныя караваі сям'і Шамашовых і Е. Пассовай, для якіх вырошчванне разнастайных кветак — даўняе захапленне і ўцеха. Узорным быў прызнаны дом сям'і Прасолавых. Мясцовыя жыхары могуць ганарыцца працавітай сям'ёй Саламахі, якія паспяхова займаюцца жывёлагадоўляй, таленавітымі Рашэтнікавымі і іх дачкой Вікторыяй. Андрэй і Таццяна Івановы — самая дружная сям'я, яны жывуць, як нітачка з іголачкай, у павазе і дабрабыце. Без перабольшання ўзорам для пераймання стаў С. Петухоў — чалавек, які зрабіў шмат нягучных, але па-сапраўднаму добрых спраў. У намінацыі «Актыўны жыхар» перамога была прысуджана В. Фёдаравай, дзейнай жанчыне, майстрысе і рукадзельніцэ. Варвара Аляксееўна — карэнная жыхарка гэтага сяла, увесь яе лёс звязаны з родным сэрцу месцам. Добрыя словы прагучалі ў гонар сем'яў Даўгаполава, Крываротавых, Марозавых, Амосавых. Іх прыдамавыя акультураныя ўчасткі робяць вуліцу і вёску яшчэ больш прыгожай і ўтульнай. Прыемна, што і летам дачнікі імкнуцца змяніць сваё жыллё разнастайнасцю колераў і дэкаратыўнымі вырабамі.

Пасля ўручэння караваяў і музычных нумароў сельскія жыхары і госці пачаставаліся кашамі, спецыяльна прыгатаванымі клапатлівымі гаспадынямі.

*Пераклад рэдакцыі сайта*

**Юлія Прышчэпа**

**www.garadvest.by**

ЗДАРЭННЕ

# Ў ЛЯСАХ ПРАПАЛА ПЯЦЬ ПЕНСІЯНЕРАЎ

**За суткі ў лясах Віцебшчына прапапала пяць пенсіянераў, уключаючы і Гарадоцкі раён.**

4 верасня ў 13.00 паступіла паведамленне аб грыбніках, якія заблудзіліся ў лесе каля вёскі Евіна Гарадоцкага раёна. У 14.10 прыйшло паведамленне аб пенсіянерцы і аб яе дачцы, якія заблудзіліся каля вёскі Руда Бешанковіцкага раёна, а ўжо ў цемры ў 21.12 пенсіянерцы каля вёскі Гензікі Полацкага раёна спатрэбілася дапамога.

Ва ўсіх выпадках з прапаўшымі страцілі сувязь, калі тыя адправіліся ў лес для збору грыбоў і ягад, але дарогу да дому знайсці не змаглі. Для пошукавых работ былі задзейнічаны ратавальнікі і супрацоўнікі міліцыі. Усе заблудзіўшыяся былі выяўлены работнікамі МНС. У медыцынскай дапамогі не мелі патрэбу.

***Ратавальнікі нагадваюць:*** *перш чым адправіцца ў лес, вывучыце правілы бяспекі. Часцей за ўсё праблемы з арыентаваннем ўзнікаюць у людзей сталага веку, акрамя таго, губляюцца і дзеці. Збіраючыся ў лес, вазьміце з сабой невялікі запас ежы, ваду, нож і запалкі. Таксама не забудзьцеся на зараджаны мабільны тэлефон і неабходныя вам лекі.*

**Л. Антонаў**

## Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

*************

Наша газета "Гасцінец" пачала размешчацца на партале http://haradok.info ў раздзеле "Газета "Гасцінец", дзе стварается архіў за мінулыя гады.

*************

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

КРАІНА ПАСЛЯ 9 ЖНІЎНЯ

# ДОКТАР-РЭАНІМАТОЛЯГ ЮРЫ СІРАШ АПАВЯДАЕ

**«Асноўныя зьвесткі атрымлівалі ад брыгадаў хуткай дапамогі — афіцыйнай інфармацыі не было»**

*— Калі вы пачалі прымаць пацярпелых?*

— Я дзяжурыў 9 жніўня, быў адказным лекарам па шпіталі. Брыгады хуткай дапамогі пачалі прывозіць увечары траўмаваных сьвятлашумавымі гранатамі. Мы чакалі большай колькасьці пацыентаў, але асноўны ўдар прыняў на сябе вайсковы шпіталь. І гэта правільна, бо міна-выбуховая траўма, агнястрэлы — гэта іхны профіль. Адзінае, мы разумелі — калі будзе вельмі вялікая колькасьць пацярпелых, вайсковы шпіталь мае пэўныя памеры, ня зможа ўсіх прыняць. Наш шпіталь усе гэтыя дні адпрацаваў з запасам, з рэзэрвам.

Усю інфармацыю атрымлівалі праз «вуснае радыё», бо афіцыйнай інфармацыі не было — нуль, інтэрнэт вырубаўся, ТБ верыць нельга. Асноўная інфармацыя, якая да нас прыходзіла, — менавіта ад брыгадаў хуткай дапамогі. Прыязджалі «хуткія», казалі: «Зараз узрываюцца сьвятлашумавыя граматы, нам трэба рыхтавацца да таго і таго, пусьцілі сьлезацечны газ — да іншага. Дзякуй хлопцам з «хуткай» — яны інфармавалі нас. Я хачу падзякаваць усім сваім калегам. 9-га ўсё аддзяленьне выйшла на працу, у наступныя дні таксама людзі тут начавалі, выходзілі не ў свае зьмены.

**«Хуткія дапамогі» не пускалі, валянтэраў зьбівалі і затрымлівалі**

*— А ці праўда, што мэдыкаў не пускалі аказваць мэдычную дапамогу на месцы, іх білі, затрымлівалі?*

— Так. Крыўдна было. Здаецца, 11 жніўня «хуткім» забаранілі прыяжджаць туды. Брыгады маглі выехаць на месца, у асяродкі супрацьку толькі на выклік міліцыі — 102. Іх туды не пускалі! Гэта нас вельмі моцна расстроіла, бо гэта баявая траўма: чым раней ты акажаш дапамогу, тым больш шанцаў пацярпеламу выжыць.

Але адчаю не было. Я ведаю прыклады, як мае калегі-валянтэры проста надзявалі будаўнічыя каскі, матацыклетныя шаломы, бралі вывы чырвоных крыжоў і ішлі «на перадавую». Пакавалі аптэчкі, бралі ўсё з сабой і ішлі аказваць дапамогу проста на полі бою.

Але наступны этап — калі іх таксама ўзялі. Мой знаёмы казаў: «Прабач, але ў мяне людзей не засталося, нашых таксама забралі і адправілі на Акрэсьціна». Дактароў-рэаніматолягаў, мэдсёстраў. У выніку аказалася, што людзі, якія знаходзяцца ў асяродках паражэньня, засталіся без мэдычнай дапамогі.

Валянтэры яшчэ апавядалі, што іх білі АМАПаўцы. Валянтэраў з чырвоным крыжам! «Я аказваю дапамогу — удар дубінкай мне ў сьпіну і ўдар па тым чалавеку, якому я аказваю дапамогу», — казаў валянтэр. Дабівацъ параненага — гэта ўжо апошняя стадыя нізасьці. Гэта сапраўды сьведчаньні зь першых вуснаў.

**«Падымаеш майку — а там месіва, фарш. Мала таго, іх яшчэ мецілі незмывальнай фарбай»**

*—Акрамя параненых, траўмаваных на вуліцах, у шпіталь хуткай дапамогі прывозілі жорстка зьбітых людзей з пастарункаў і Акрэсьціна. Зараз, калі іх пачалі выпускаць, яны прыходзяць самі па дапамогу альбо каб зафіксаваць пабіцьцё. Якія пашкоджаньні ў іх?*

— Так, калі спыніліся сутычкі на вуліцах, тысячы людзей закінулі за краты. І пачалі везьці людзей з Акрэсьціна, з РУУСаў. На іх было страшна глядзець — людзей тупа «адпрацоўвалі». Калі прывозілі людзей са спалучанымі траўмамі — жывога месца на іх не было, падымаеш майку — а там месіва, усё сіняе, фарш. Спрабуеш хлопца перакласьці з насілак на каталку — а ён раве ад болю.

Мала таго, іх яшчэ мецілі незмывальнай фарбай — лоб і руку. Навошта — я ня ведаю. Прычым гэта ніякія не бандыты, ані наркаманы, ані крымінальнікі. Гэта нармальныя маладыя хлопцы. Не было п'яных, забулдыг, алькаголікаў, асацыяльных людзей.

Вось гэта і прымусіла нас падняцца. Гэта ўжо па-за межамі.

Нам забаранілі зьбірацца мірна, і калі людзі выйшлі на пратэст, улада пачала выкарыстоўваць баявую зброю. Гвалт нараджае гвалт — па-іншаму быць ня можа.

**«Апошняй кропляй стала затрыманьне рэаніматоляга Багдана Шыльнікоўскага»**

*— Ці былі вы на вуліцах у «гарачых пунктах» падчас сутыкненьняў? Ці выходзілі на акцыі пратэсту мэдыкаў?*

— Я не хадзіў на барыкады не таму, што я баюся. Я проста ўсьведамляю, што ў клініцы буду больш карысным.

А на пратэсты мы таксама выходзім. 12 жніўня выходзілі да мэдычнага ўнівэрсытэту на мірную акцыю. Гэта было так узьнёсла! Апошняй кропляй стала затрыманьне нашага калегі доктара-рэаніматоляга Багдана Шыльнікоўскага, і народ зразумеў, што далей ўжо трываць нельга. Бо калі затрымліваюць суседа, знаёмага — гэта адно. Калі сваяка ці калегу — іншае. Як сказаў мне іншы калега, аднакурсьнік і сябар Багдана, «за што затрымліваць гэтага „пяльменя", ён жа найдабрэйшы чалавек!»

*— Міністэрства здароўя абвесьціла пару дзён таму, што вызваленыя 16 мэдыкаў з Акрэсьціна і іншых месцаў. Ці пісалі мэдыкі зварот, каб вызвалілі ўсіх іхных калег?*

— Я супраць гэтага, бо лічу, што трэба змагацца не паводле прафэсійнай, этнічнай ці яшчэ якой прыкметы. Трэба змагацца за ўсіх. Там яшчэ застаюцца людзі, і многія ў цяжкім стане. Мы павінны патрабаваць вызваліць усіх. Мы не павінны пагаджацца на саступкі: вось вашага калегу выпусьцім, а іншага пакінем. Гэта антыгуманна. Гэта мая думка.

*— На Вашу думку, ці скончылася ўсё самае страшнае для пацярпелых, ці застаюцца яшчэ наступствы, ускладненьні?*

— Вядома, застануцца. Любая стрэсавая сытуацыя так проста не праходзіць. Байцоў АМАП, САХР, міліцыянтаў адмыслова трэнуюць, яны прывычныя, гэта іх прафэсія, а мы звычайныя людзі. Бясьсьледна гэта ня пройдзе.

Мы не павінны нічога хаваць, нічога не павінна замоўчвацца — гэта нашы грамадзяне. Павінны быць сьпісы ўсіх затрыманых і месцы, дзе яны знаходзяцца. А ня так, што валянтэры шукаюць людзей па ўсіх пастарунках і шпіталях. Павінен быць даведачны цэнтар для сваякоў, каб яны маглі апэратыўна атрымаць інфармацыю.

Тыя хлопцы, якія да нас трапілі, першыя суткі-двое проста спалі. Зойдзеш у палату, павітаесься, яны сьпяць. Пад вечар апрытомнеюць, прачнуцца: «Вітаю, доктар!» А я ўжо разоў 10 туды заходзіў.

Аднаго хлопца прывезьлі з Акрэсьціна на «хуткай дапамозе». Там яго трое сутак тупа білі. І ён, калі перагружалі ў машыну хуткай дапамогі, пытаўся: «А мяне ня будуць больш біць?» А хлопцу 20 гадоў! За што?

**«Улада, якая ня мае павагі, — гэта канец!»**

*— Як вы даяце рады, як перажываеце стрэс, бачачы ўсё гэта і фактычна тыдзень ужо працуючы ў вельмі напружаным рытме?*

— Сьпіртное я ня п'ю, не куру. Усе дні адстаяў у прыёмным аддзяленьні, усё бачыў, разьмяркоўваў, сам аказваў дапамогу. Што ратавала — проста хадзіў вакол шпіталя. Хадзіў, хадзіў кругамі. Калі злосьць закіпала — сьціскаў зубы ад свайго бясьсільля.

Калі ладзілі акцыю — паўстала пытаньне, ці пайду я на акцыю. Адназначна пайду! Я разумею, што мне хранова і толькі гэтым я магу ратавацца ад стрэсу. Калі мы выйдзем усе разам і скажам «Не!» — тады мы сіла! І толькі разам мы можам зьмяніць сытуацыю.

Калі ўлада моцная, я яе слухаю. Я даю інтэрвію, не пытаючыся дазволу ў прэс-службы, як нам усім загадалі. Я не раблю нічога процізаконнага. Вы, улады, дапусьцілі гэтае цемрашальства, а я буду ў вас дазволу прасіць на тое, каб гаварыць?

Улада страціла павагу. Яны не разумеюць, што ўлада, якая ня мае павагі, — гэта канец!

**Радыё Свабода**

НАВУЧАЛЬНЫ ГОД

# СТАРТОВАЛ ОЧЕРЕДНОЙ УЧЕБНЫЙ ГОД В ШКОЛАХ

**1 сентября прозвенел первый звонок для учащихся школ и гимназий республики. Новый учебный год начали около 1 млн 55 тыс. ребят (в 2019-2020 г. — 1 млн 30 тыс.). Из них — 114 тыс. первоклассников.**

В День знаний первый урок в учреждениях образования прошёл на тему «Я вырос здесь, и край мне этот дорог». Педагоги объясняли детям значение понятия «малая родина» в жизни каждого человека, а также на примерах профессиональной и общественной деятельности земляков, их вклада в развитие экономики, культуры, спорта и науки Беларуси.

Интерес к настоящему и прошлому родного края, способность ценить историческое и культурное наследие, дорожить и любоваться своеобразием и красотой нашей природы — всё это позволяет развивать ценностное отношение к малой родине и личную причастность каждого гражданина к её судьбе. Молодое поколение должно знать историю страны, гордиться достижениями потомков. Каждый учащийся в процессе обучения уже решает важнейшую для страны задачу, получая необходимые для себя знания и создавая условия для мирного и созидательного развития нашего государства. На Городокщине традиционно прошли торжественные линейки в восьми школах. Вне всякого сомнения, главными героями этого праздничного дня, наполненного волнением и эмоциями, стали первоклассники, которые впервые сели за школьные парты (в двух городских школах – 164 ребёнка, сельских — 57).

Уже девятый год подряд министр МЧС Владимир Ващенко с подарками приезжает на линейку в Бычихинскую среднюю школу, которую сам когда-то окончил. Также гостями на празднике в этот день были председатель Городокского районного Совета депутатов Светлана Зуева, начальник Витебского областного управления МЧС Сергей Мелешкин, замначальника НИИ пожарной безопасности и проблем ЧС Елена Дмитрук и гл. редактор газеты «Юный спасатель» Елена Полещенкова. У входа в школу представители предприятий «Оршасырзавод» с красочными плакатами в стиле символики службы спасения и «Витьба» угощали детвору своей продукцией. До первого звонка все успели полакомиться вкусным мороженым и кондитерскими изделиями.

Наступил торжественный момент, и все 115 учеников школы выстроились по классам. Конечно, больше внимания было адресовано выпускникам и первоклассникам. Одиннадцатиклассники подарили малышам первый учебник — букварь. Гости вручили подарок от Президента Республики Беларусь А.Г. Лукашенко — книгу «Беларусь — наша Радзіма».

— Дорогие ребята, вы набрались сил, энергии за лето и теперь готовы приступить к учёбе. Для первоклассников этот день очень волнительный, но я уверен, что внимание и забота учителей, поддержка родителей сделают их пребывание в школе комфортным и уютным. А мы все вместе будем трудиться, чтобы сохранить нашу Родину — Республику Беларусь — мирной, стабильной и процветающей. Я желаю всем, чтобы каждый день учёбы и труда наполнялся новыми знаниями и открытиями, — обратился к присутствующим Владимир Ващенко.

Педагоги, учащиеся и их родители принимали тёплые слова и поздравления от гостей мероприятия, директора школы Светланы Бронской. Она высказала слова благодарности Владимиру Александровичу, руководству района и КУСХП им. Свердлова за оказанную поддержку, содействие в подготовке школы к новому учебному году.

Стоит отметить, что на первый урок к первоклашкам пришли гости, а также заглянули герои журнала «Юный спасатель» Заяц Филька и Лисичка Лилька. С ребятами они провели учебную тренировку: те уверенно набирали единый номер 112, сообщали своё имя, фамилию и адрес, где произошёл пожар. Ребятам раздали дневники безопасности, провели с ними игры на сообразительность по правилам противопожарного поведения. Ещё мальчики и девочки получили в подарок новенькие портфели и сладкие призы.

Спасатели в очередной раз порадовали жителей Бычихи. На концерт, подготовленный сотрудниками МЧС и учащимися школы, люди приходили семьями. Песни, танцы, выступление иллюзиониста никого не оставили равнодушным.

**Елена КРАВЦОВА**

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# БЕЛАРУСКІ ВАРЫЯНТ «СТА ДЗЁН АДЗІНОТЫ»

**Што вывела сотні тысяч беларусаў на плошчы? Паводле афіцыйнай версіі, неаднаразова агучанай адзіным палітыкам (АП), — замежныя лялькаводы. Бо ўнутраных прычын для гэтага ў дзяржаве для народа няма і быць не можа. Прынамсі, асабіста ён іх не заўважыў.**




Але калі прызнаць, што такое тлумачэнне ўтрымлівае хоць бы драбніцу ісціны, то ўсіх дзяржаўных прапагандыстаў неабходна тэрмінова звальняць за прафнепрыдатнасць.

Звернемся да **бюлетэня «Рэспубліка Беларусь у люстэрку сацыялогіі» за 2018 год**, падрыхтаванага спецыялістамі Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра (ІАЦ) пры АП. Салідны дакумент салідных людзей. У мяне няма падставаў яму не давяраць.

Цытую: *«На сучасным этапе ў кожнага жыхара краіны ёсць магчымасць аператыўна атрымліваць звесткі пра сітуацыю ў краіне і за мяжой у зручнай для яго форме: на 1 лістапада 2018 года ў краіне дзейнічаюць 9 інфармацыйных агенцтваў, выдаюцца 746 газет і 860 часопісаў, транслююцца дзясяткі тэлеканалаў, ажыццяўляюць вяшчанне 176 радыёпраграм. Шырока прадстаўлены і вэб-сайты, якія публікуюць актуальныя навіны і забаўляльны кантэнт»*.

Колькасць газет уражвае. Але не будзем цешыць сябе. Не ўсё золата, што блішчыць, і не ўсё карыстаецца попытам, што надрукавана на газетнай паперы. У першай дзясятцы няма ні аднаго незалежнага выдання. А замыкае ТОП-10 газета «Звязда», чыя аўдыторыя (2%) не перавышае хібнасці вымярэння. Што ж тады казаць пра ўплывовасць выданняў, якія ў першую дзясятку не трапілі.

Ад друкаваных выданняў пяройдзем да тэлебачання, якое згодна з прызнаннем сацыёлагаў ІАЦ, *«паранейшаму застаецца для беларускіх грамадзян галоўнай крыніцай інфармацыі пра падзеі ў рэспубліцы і свеце»*.

Аднак паводле папулярнасці і ўзроўню даверу, як і ў выпадку з газетамі, тэлеканалы «Белсат» і «Еўраньюс» вядучым дзяржаўным каналам — не супернікі.

Інтэрнэт, безумоўна, апісаную вышэй карціну «змазвае». Праз два-тры гады ён стане для большасці беларусаў галоўнай крыніцай інфармацыі пра падзеі ў краіне і свеце. Стане, але пакуль яшчэ не стаў.

Дык чаму ж лялькаводы з-за мяжы аказаліся настолькі эфектыўнымі пры рэалізацыі сваіх злачынных планаў? А дзе была пры гэтым ідэалагічная вертыкаль?

**Выбары і сяржанты**

Праўда, як любіць паўтараць палітолаг **Станіслаў Бялкоўскі**, — гэта версія, якая найбольш задавальняе. У вершнікаў — свая праўда, у пяхоты — свая.

Так, згодна з версіяй кіраўнікоў палатаў беларускага парламента Наталлі Качанавай і Уладзіміра Андрэйчанкі, якой яны падзяліліся са старшынямі парламентаў дзяржаў — чальцоў Еўрасаюза, выбары 9 жніўня прайшлі ў адпаведнасці з Канстытуцыяй і законамі РБ.

Наконт колькасці грамадзян, якія рэальна падтрымалі дзеючы курс, у грамадстве ідуць гарачыя спрэчкі. Але, павінен прызнацца, яны мяне мала цікавяць. І тут спатрэбіцца тлумачэнне.

Галасы лічаць на выбарах. Аднак дзе тыя шчаслівчыкі, якія здолелі прыняць удзел у беларускіх выбарах пасля 1996 года? Выбары — гэта ў першую чаргу сумленны падлік галоў. Безумоўна, да такога падліку яны не зводзяцца, але калі сумленны падлік не забяспечаны, то пра якія выбары гаворка?

Каб выпадкова дарэмна не пакрыўдзіць людзей годных, з якіх і камплектуюцца ў Беларусі ўчастковыя выбарчыя камісіі (УВК), я — з дапамогай пісьменніка Габрыэля Маркеса — перанясуся ў Калумбію: *«Выбары прайшлі спакойна. У нядзелю, у восем гадзін раніцы, на плошчы была ўстаноўлена драўляная скрыня пад аховай шасці салдат. Галасаванне было цалкам свабодным, у чым Аўрэліана мог пераканацца сам — амаль увесь дзень ён прастаяў побач з цесцем і сачыў, каб ніхто не прагаласаваў больш за адзін раз. У чатыры гадзіны дня барабанны дроб абвясціў пра канец галасавання, і дон Апалінар Маскотэ апячатаў скрыню ярлыком са сваім подпісам. Увечары, седзячы за партыяй у даміно з Аўрэліана, ён загадаў сяржанту сарваць ярлык і падлічыць галасы. Ружовых паперак было амаль столькі ж, колькі блакітных, але сяржант пакінуў толькі дзесяць ружовых і папоўніў нястачу блакітнымі. Потым скрыню апячаталі новым ярлыкам, а на наступны дзень, ледзь развіднела, адвезлі ў галоўны горад правінцыі»* (**«Сто гадоў адзіноты»**).

Беларусь, наколькі мне вядома, знаходзіцца не ў Лацінскай Амерыцы, а ў геаграфічным цэнтры Еўропы. Ці азначае гэта, што мясцовыя сяржанты пазбаўленыя магчымасці ўплываць на падлік галасоў?

Каб знайсці правільны адказ, звернемся да статыстыкі фарміравання УВК. Паводле інфармацыі Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў, да 24 чэрвеня было сфарміравана 5 723

***(працяг на стар. 4)***

ВЫБАРЫ-2020

# «ВЫБОРОВ ПРОСТО НЕ БЫЛО»

**Онлайн-платформа «Голос» вместе с платформой «Зубр» и инициативой «Честные люди» опубликовала итоговый отчет о президентских выборах в Беларуси. Главный вывод документа – во время выборов происходили массовые фальсификации и Александра Лукашенко нельзя считать легитимным президентом.**

Авторы отчета пришли к выводу, что голоса за Светлану Тихановскую подсчитаны неправильно, а Александр Лукашенко никак не мог набрать 80% голосов.

*«На участках, по которым у нас есть протоколы, голосов за Светлану Тихановскую в среднем в 13 раз больше, чем на участках, протоколы по которым получить не удалось»*, – отмечается в документе.

На 22% участков, по которым наблюдатели получили официальные данные, было собрано более 81% голосов, озвученных ЦИК в пользу Тихановской. То есть на обработанных участках за Тихановскую голосовали в среднем 360 человек, а на необработанных – 26. Такая ситуация выглядит нереалистично, подчеркивают авторы отчета. Более того, в Минске на 59% избирательных участков, по которым есть данные у наблюдателей, у Тихановской было больше голосов по протоколам, чем на всех 100% участков в Минске по подсчетам ЦИК. То есть цифры ЦИК противоречат цифрам участковых комиссий.

В отчете однозначно утверждается: Лукашенко никак не мог набрать более 80% голосов. На 1310 участках, по которым наблюдатели смогли получить данные официальных протоколов, он даже с учетом фальсификаций имел только 61,7%.

Сопоставление данных официальных протоколов ЦИК с фотографиями бюллетеней на платформе «Голос» привело к выявлению нарушений на минимум 400 участках. То есть при помощи альтернативного подсчета голосов удалось доказать фальсификации примерно на 30% участков, которые фигурировали в анализе.

Всего через онлайн-платформу «Голас» проголосовали 1 261 127 избирателей, 1 047 933 подтвердили свое голосование по номеру телефона. Из этих подтвержденных пользователей «Голосу» 95,58% проголосовали за Тихановскую и только 0,96% за Лукашенко.

**«ЦИК озвучил цифры, которые вообще не имеют никакого отношения к реальности»**

Объединенный штаб во главе со Светланой Тихановской предлагал использовать платформу «Голас» для защиты голосов белорусов на выборах. Белорусов призвали присылать фото своего бюллетеня, чтобы таким образом провести альтернативный подсчет голосов. Имена разработчиков платформы «Голас» до недавнего времени не озвучивали. Однако в день опубликования итогового отчета проекта топ-менеджер компании EPAM Systems Павел Либер признал, что был одним из создателей платформы. Всего в разработке «Голоса» принимало участие более 40 специалистов из Беларуси.

*«Часть разработчиков с самого начала находилась за границей, а часть выехала, когда мы увидели давление на платформу,* – рассказал в интервью belsat.eu Павел Либер. – *Когда мы увидели негативное отношение к нашей платформе, мы посчитали, что для нас безопаснее будет оставаться анонимами. Но когда мы презентуем результаты нашей работы, мы хотим показать, что ее делали живые люди, которые живут в Беларуси и работают в белорусских компаниях. Полностью сохранять анонимность в таких условиях нам кажется неприемлемым. Поэтому я решил снять анонимность с себя. Хотя многие разработчики еще думают, стоит ли это делать. Ведь, безусловно, нынешний отчет очень неудобен для власти, так как точно обосновывает, почему выборы были сфальсифицированы»*.

По информации Либера, данные «Голоса» позволяют однозначно заявлять, что Лукашенко не является легитимным президентом. Но при этом создатели платформы не утверждают, что на выборах победила Светлана Тихановская, так как они не имеют информации по всем избирательным участках.

*«Утверждать, что Светлана Тихановская победила, мы не можем. Во-первых, не ставили задачу выяснить, кто победил. Во-вторых, размер фальсификаций был таков, что обсуждать этот вопрос нет смысла – выборов просто не было. ЦИК озвучил цифры, которые вообще не имеют никакого отношения к реальности»*, – объяснил Либер.

**«Мы получили цифры, с которыми трудно спорить»**

По словам Либера, ожидания от этого проекта полностью реализовались, создатели довольны результатами «Голоса».

*«Платформа «Голос» реализовалась сразу в двух плоскостях. Первая – это область цифр. Мы получили цифры, с которым трудно спорить, мы доказали огромное количество фальсификаций. Вторая плоскость – психологическая. Люди верили в платформу, делали фотографии на избирательных участках, председатели комиссий это видели и, безусловно, это стало важным фактором того, что некоторые комиссии посчитали голоса честно»*, – говорит разработчик платформы.

Онлайн-платформа «Голос» с самого начала вызвала остро негативную реакцию властей. 6 августа Александр Лукашенко поручил правоохранительным органам дать оценку законности альтернативного подсчета голосов. Генпрокуратура угрожала создателям проекта административной ответственностью.

Председатель ЦИК Лидия Ермошина назвала платформу «Голос» «политической аферой», а также «вредным, преступным проектом», направленным на организацию массовых беспорядков. Но Либер говорит, что все противодействие со стороны властей почти не повлияло на функционирование проекта:

«Несмотря на все препятствия и обвинения, мы все равно собрали достаточную доказуемую базу, чтобы утверждать, что выборы были сфальсифицированы. Мы с самого начала понимали, что будет противодействие, что в стране не будет интернета. Поэтому продумали механизм, когда фотоснимки можно будет прислать позже. Ведь можно отключить интернет в стране, но нельзя стереть фотографии с телефонов тысяч пользователей».

**ИИ/АА Belsat.eu**

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

*(пачатак на стар. №3)*

участковых выбаркамаў, у склад якіх увайшлі 63 347 чалавек. З 539 прадстаўнікоў апазіцыйных партый у камісіі ўключылі ўсяго шэсць.

Далей працягваць?

**Паміж Богам і Д'яблам**

Праўда, як любіць паўтараць палітолаг **Станіслаў Бялкоўскі**, — гэта версія, якая найбольш задавальняе. Прыведзеная вышэй статыстыка фарміравання УВК многіх у Беларусі задавальняе, і найперш задавальняе яна службоўцаў, што чэрпаюць свае даходы з бюджэтнай кармушкі.

Пазнаць гэтых людзей нескладана. Гэта яны сёння гучней за ўсіх крычаць накont неабходнасці захавання законаў і палохаюць абывацеляў каляровымі рэвалюцыямі і танкамі NATO, што нібыта вось-вось гатовыя рушыць на Гродна.

Але не пераваліся яшчэ людзі, якія спрабуюць вярнуць праўдзе яе першапачатковую ўніверсальную прыроду. Прапаную прыслухацца да словаў архіепіскапа Гродзенскага Арцемія (Кішчанкі): «*…нельга гуляцца з Праўдай, перакручваць яе на карысць палітычнай мэтазгоднасці. Таму што Праўда — гэта той каштоўнасны феномен і сэнсавая катэгорыя, за якой стаіць — БОГ! І калі Праўда бярэцца ў двукоссі і лёгкім рухам рукі ператвараецца ў хлусню, то зняважаецца Той, Хто — Бацька Праўды! І на арэну выходзіць іншы бацька. Бацька хлусні. Якога, як мы ведаем з Божага слова, завуць — Д'ябал. І яшчэ мы пра яго ведаем, што "Ён быў чалавеказабойцам ад пачатку"* (Евангелле ад Іаана 8, 44)».

Рэакцыя з боку АП на такі погляд на праўду не прымусіла сябе доўга чакаць: «*Мяне здзіўляе пазіцыя нашых канфесій. Дарагія мае святары, пасталейце ды займіцеся сваёй справай. У храмы людзі павінны прыходзіць маліцца! Цэрквы, касцёлы — не для палітыкі. Туды людзі душой павінны прыходзіць, як гэта было заўсёды*».

АП перакананы, што святары пайшлі за адшчапенцамі. Галоўнаму спецыялісту па падзеле беларусаў на чыстых і нячыстых, зразумела, лепш бачна. Для тых жа, хто яшчэ не ведае, спатрэбіцца тлумачэнне: адшчапенцы, разам з пацукамі і уркамі — гэта новая генерацыя грамадзян рэспублікі-партызанкі, што на ўсю моц праявіла сябе падчас электаральнай кампаніі.

У іх шэрагі бліжэйшым часам залічаць і святароў, якія адмовіліся «пасталець». Царква ў Беларусі адасобленая ад дзяржавы, але яна не аддзеленая ад жыцця. У гэтым праблема.

**А дустам не спрабавалі?**

У змрочныя часы Сярэднявечча існавала павер'е, што пацукі нараджаюцца з бруднай бялізны. Не ведаючы нічога пра інфекцыйныя захворванні, нашы продкі, тым не менш, заўважылі, што ўслед за пацукамі ў горад прыходзіла чума. Таму пацукі лічыліся вешчунамі бяды і смерці, а прафесія пацукалова была распаўсюджанай і грамадска значнай, хоць і не паважанай гараджанамі.

Чаму Пацукалоў са старадаўняй казкі ходзіць з жалейкай? Не з пасткамі, не з атрутай, а з жалейкай? Пацукі пацукамі, але для пацукалова-музыкі важна было ўздзейнічаць не на пацукоў, а на абывацеляў — адцягваць іх ад паўсядзённых праблем.

Сучасным пацукаловам — з іх цяперашнім наборам музычна-інфармацыйных інструментаў — падпарадкоўваць сваёй волі даверлівых слухачоў, здавалася б, яшчэ прасцей. Абмяжуюся адным прыкладам: «*У інтэрнэце хто сядзіць? 60% паказвалі сінякі. 60% пастановачныя кадры! 60%! Пройдзе час, мы спакойна вам пра гэта скажам і пакажам. Сёння не час пра гэта казаць, каб не бударажыць людзей*».

У дзяржаве для народа, якая прэтэндуе на ролю донара еўрапейскай стабільнасці, людзей бударажыць, безумоўна, не варта. А пацукоў? Як нечакана высветлілася, многія з тых, каго добранадзейныя грамадзяне гадамі прымалі за людзей, насамрэч аказаліся... пацукамі. Гэта асабліва заўважна з ілюмінатара верталёта, калі глядзіш, як яны сабраліся мітынгаваць.

У гумавага дручка існуюць свае перавагі, але чаму б не паспрабаваць дустам? Прэпарат даўно апрабаваны. Сінякоў ён не пакідае.

**Сяргей Нікалюк**
**Новы Час**

ОБЩЕНАЦИОНАЛЬНАЯ ЗАБАСТОВКА

# ТИХАНОВСКАЯ ПРИЗВАЛА БЕЛАРУСОВ ПРОДОЛЖАТЬ И РАСШИРЯТЬ ЗАБАСТОВКИ

**Соперница Александра Лукашенко на выборах президента Беларуси Светлана Тихановская записала новое обращение, в котором призвала работников беларусских предприятий продолжать и расширять забастовки, чтобы "заставить власть услышать наши голоса, которые она у нас украла".**

***"Забастовки зажали диктатуру в угол, ранили ее в самое сердце. Поэтому сейчас вас всеми способами пытаются разделить и поссорить. Ведь если мы будем все вместе, у этого режима не останется ни единого шанса"***, – заявила Тихановская. Она убеждена, что забастовки являются ***"абсолютно легальным и мощным оружием против режима"***. ***"Продолжайте и расширяйте забастовки, не ведитесь на запугивание, объединяйтесь. Оставьте страх диктатуре, помните, вы не одни. С вами вся Беларусь"***, – сказала Тихановская. Она также отметила, что в фонд поддержки, куда поступают пожертвования на помощь тем, кто остался без работы из-за простоя в производстве, перечислили миллионы.

***"Наши цели просты: прекратить насилие, освободить политических заключенных и провести новые, прозрачные, свободные и честные выборы. Вместе мы сила. Сила, перед которой не устоит никакая диктатура. И помните: только вместе мы сможем построить страну для жизни"***, – заявила соперница Лукашенко на состоявшихся 9 августа выборах президента Беларуси Светлана Тихановская.

**www.svoboda.org**

#БЕЛАРУСЬ2020

# ТРИ ДНЯ, КОТОРЫЕ ПОТРЯСЛИ БЕЛАРУСЬ

**Вся Беларусь испытала на себе беспрецедентные трехдневные проблемы с интернетом, которые, как мы все надеемся, завершились утром в среду, 12 августа. Значительная часть населения по-прежнему остается в неведении, что же именно происходило в эти три дня, страна полнится самыми разнообразными слухами. Мы решили собрать все важнейшие события последних дней в одном материале.**

**9 АВГУСТА**

На участках для голосования в столице, регионах и за границей — при посольствах и консульствах Беларуси — наблюдался небывалый ажиотаж: люди несколько часов стояли буквально в километровых очередях, чтобы отдать свой голос.

С некоторых участков поступала информация о том, что не хватает бюллетеней, а явка, по информации независимых наблюдателей, учитывая данные о досрочном голосовании, превышает 100%. На некоторых участках в Минске люди не успели проголосовать до их закрытия в 20.00: где-то собравшихся разгонял ОМОН, где-то работу комиссий продлили.

К концу дня выборов у пользователей стал массово пропадать мобильный интернет, а около десяти вечера Беларусь была практически изолирована от мировой Сети. Н

В эфире государственных телеканалов озвучивались предварительные результаты экзитполов — опроса избирателей на выходе с участков. Они говорили об убедительной победе Лукашенко.

Люди не расходились с участков, ожидая оглашения результатов. На некоторых из них комиссии зафиксировали победу Тихановской, часто с большим отрывом. Позже в Сети появились десятки фото подтверждающих это протоколов. Эту информацию собравшиеся встречали возгласами одобрения и словами благодарности в адрес комиссий.

К вечеру в Минск стала стягиваться спецтехника. На дорогах, ведущих в город, работали военные патрули. Силовики перекрыли центральные улицы, в некоторых районах не работал наземный общественный транспорт, были закрыты отдельные станции метро.

Ближе к девяти вечера тысячи людей стали собираться на большом промежутке от Немиги до стелы «Минск — город-герой» и дальше по проспекту Победителей, а также по проспекту Машерова — вплоть до супермаркета Bigzz. Там развернулись главные события: люди выходили на проезжую часть, силовики оттесняли их из района Немиги; применялись водометы, резиновые пули, слезоточивый газ и светошумовые гранаты. Было много пострадавших, в том числе и тяжело: в толпу въехал автозак — были ранены люди.

Протесты прошли также во всех областных центрах, самые серьезные стычки с силовиками были в Бресте. Много людей выходило на улицы в Полоцке и Новополоцке, Бобруйске, Солигорске, Волковыске, Барановичах, Кобрине, Жодино, Молодечно. На следующий день МВД сообщило, что протесты прошли в 33 городах страны, было задержано около 3 тысяч человек.

**10 АВГУСТА**

Предварительные результаты голосования были оглашены ЦИК лишь на следующий день: у Лукашенко 80,23%, у Тихановской — 9,9%.

Евросоюз осудил действия белорусских властей, а Лукашенко с победой поздравили Россия и Китай.

Днем появлялись данные о бастующих работниках некоторых предприятий: с БМЗ в Жлобине поступали сообщения об остановке работы в одном или нескольких цехах, однако директор предприятия опроверг сообщения о забастовке.

Вечерние протесты в понедельник не уступали тем, что были накануне. В столице, как и в предыдущий день, был перекрыт центр города, не работали шесть станций метро. Люди опять собирались на Немиге, но главные события развернулись в районе метро «Пушкинская» и универсама «Рига»: вновь тысячи людей, перекрытая проезжая часть, баррикады, а также жесткие задержания, светошумовые гранаты, резиновые пули и водометы. Автомобилисты блокировали своими машинами проезжую часть, не давая проехать спецтехнике.

На «Пушкинской» в тот вечер погиб протестующий: по сообщениям МВД, он пытался бросить в ОМОН самодельное взрывное устройство, которое сработало у него в руках; однако нашлись очевидцы и видеозаписи, которые опровергают эту версию.

Минздрав сообщил о том, что в больницы с ранениями за два протестных дня были доставлены чуть более 200 человек, нескольким потребовались операции.

Люди протестовали в Гродно, Витебске, Могилеве, Новополоцке, Барановичах, Молодечно, Новогрудке, Жодино. В Бресте и Гомеле были серьезные стычки протестующих с ОМОНом.

Проблемы с интернетом продолжались весь день, это сказалось на работе многих сервисов, учреждений, предприятий IT-сектора, принесло многомиллионные убытки стране.

МВД отчитался о задержании еще 2 тысяч человек, а также сообщил о том, что пострадал 21 представитель органов правопорядка.

**11 АВГУСТА**

Утром появилась информация об отъезде Тихановской в Литву, ее подтвердил глава МИД этой страны. Как выяснилось, она уехала туда ночью, после того как провела в понедельник несколько часов в здании ЦИК. Кто с ней там говорил и о чем неизвестно, однако днем появилось ее видеообращение, где она призывает белорусов не выходить на улицы и соблюдать закон — текст она читала по бумажке. Мария Колесникова, единственная из «трио», оставшаяся в Беларуси, заявила, что Тихановская сделала его под давлением.

Во вторник силовики действовали гораздо более жестко, в том числе по отношению к журналистам. В Минске в первом часу ночи большая часть протестующих была либо разогнана, либо задержана. Их отлавливали во дворах, выламывали двери подъездов, где они скрывались от милиции. Поступали сообщения, что силовики стреляли резиновыми пулями в окна, из которых свидетели задержаний осыпали их бранью.

Утром 12 августа в МВД сообщили, что в минувший день задержали более тысячи человек. По информации Минздрава, за медицинской помощью обратился 51 человек, из них 14 — сотрудники милиции и внутренних войск.

Итоги трех дней протестов в цифрах — более 6 тысяч задержанных, более 250 пострадавших и один погибший.

*(сокращено)*

**news.tut.by/society/696345**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: leo592202@gmail.com
Тэл. 8-02139-5-08-52, маб. + 375(29)6723842 (V),
Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 12.09.2020 у 18.45**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.